**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№26(638)**
**28 чэрвеня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



**Штогод на радзіме Васіля Быкава ў в. Бычкі (Ушацкі р-н), у дзень яго народзінаў, уручаецца прэмія «За свабоду думкі». Прэмія заснавана рухам «За Свабоду», якім кіруе Аляксандр Мілінкевіч, і ўручаецца выбітным культурным і грамадскім дзеячам. Сёлета лаўрэатамі сталі двое.**

Першым прэмію атрымаў 84-гадовы Алесь Белакоз — заслужаны настаўнік Беларусі, заслужаны дзеяч культуры, адным з першых ён быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны. Белакоз стварыў унікальны Гудзевіцкі дзяржаўны літаратурна-гістарычны музей і ўзначальваў яго на працягу 30 гадоў. Дарэчы, Алесь Белакоз сам сябе вылечыў ад рака і ў сваім зваротным слове прапанаваў да яго звяртацца ў выпадку, «калі лекі не дапамагаюць».

Другім лаўрэатам прэміі «За свабоду думкі» стаў музыка Лявон Вольскі.



**На здымку:** прэмію «За свабоду думкі» атрымоўвае 84-гадовы Алесь Белакоз.
***Фота Я. Самсонава.***

*Працяг тэмы на стар. 6*

# У Варганах жыве верабей-альбінос

**Гэту вельмі рэдкую птушку ўбачыў на сваім дворы старэйшына вёскі Варганы Докшыцкага раёна Леанід Таіраў.**

Абсалютна белы верабей панадзіўся разам са сваімі сабратамі прылятаць да куранят ласавацца іх кормам. Праз некаторы час птушкі сталі такімі смелымі, што не пужаліся і чалавека. Але белы верабей, быццам ведаючы пра сваю незвычайнасць, заставаўся паранейшаму пужлівым і асцярожным. Таму шмат прыйшлося пасядзець у засадзе фотакарэспандэнту, каб сфатаграфаваць гэта цуда прыроды, якое, пэўна, адчувала прысутнасць чалавека, бо так і не апусцілася на зямлю, каб клюнуць зярнятка.



**Верабей-альбінос у Варганах.**
*Фота Вячаслава Чарвінскага, dokshitsy.by*



# Запрашаем на свята «Фэст на Дзядку»!

**15 ліпеня 2012 года. Пачатак а 13-00 гадзіне.**

**У праграме:**

1.Гаспадары зямлі.
2.Лепшыя падвор'і.
3.Канцэрт.
4.Аўкцыён, бяспройгрышная латарэя.
5.Канкур (таталізатар).
6.Спартыўна-забаўляльная праграма.
7.Выстава-продаж вырабаў народных умельцаў.
8.Фота-выстава.

**Месца правядзення:**
7-ы км. дарогай «Пятроўшчына - Капыльшчына».

**Арганізатары:** *Узрэцкі і Залескі сельвыканкамы, ААТ «Пятроўшчына», ААТ «Залатая падкова», ААТ «Глыбоцкая птушкафабрыка», Узрэцкае лясніцтва.*

# У парку Перамогі хутка ўстановяць БМП

БМП ужо прывезлі ў Глыбокае, яна знаходзіцца на тэрыторыі Глыбоцкай ЖКГ. Пасля касметычнага рамонту і адмысловай рэстаўрацыі яна будзе ўсталявана ў парку Перамогі ў Глыбокім.

На Беларусі дзесяці 60 гадоў маюць на п'едэсталах грозныя баявыя машыны – у асноўным танкі. Цяпер у гэтыя шэрагі дадаецца Глыбокае. Дзесяці танкі, а ў нас – БМП (баявая машына пяхоты).

*Я. Самсонаў.*





Верхнядзвінскі раён

# Радуе Ян сырамі

■ Станіслаў Раманчук

**Пасля нядаўна праведзенай рэканструкцыі адным з самых тэхнічна аснашчаных у Беларусі стаў Верхнядзвінскі масласырзавод, які вядомы сваёй прадукцыяй пад гандлёвай маркай "Ян сыраробʺ.**

Мясцовыя спецыялісты прайшлі спецыяльную падрыхтоўку і гатовы працаваць на навейшым энергазберагальным абсталяванні, насычаным выключна электронікай. У выніку атрымоўваюць у райцэнтры цэлую гаму цвёрдых, сычужных, паўцвёрдых, мяккіх сыроў. Адной з удалых апошніх навінак прадпрыемства стаў сёлета новы сыр "Армейскі" з сапраўднай зялёнай маскіровачнай афарбоўкай. Ён адразу атрымаў бронзавы медаль на буйной міжнароднай выставе-ярмарцы "Прадэкспа-2012", якая праходзіла ў Маскве. Гэты сыр для гурманаў вызначае добры смак, а яго арыгінальны колер дасягаецца за кошт тэхналогіі натурпрадуктаў пры фармоўцы брускоў, а не хімічных дабавак. Сыр "Армейскі" з-за багацця ў ім кальцыю вельмі карысны для людзей, у каго ёсць розныя праблемы з абменам рэчываў. Дарэчы, на той выставе ў расійскай сталіцы завадчане атрымалі і прыз "Лепшы інавацыйны прадукт года" за сваю сываратку падсырную ў асартыменце. Цяпер завод пачаў яе пастаўкі і на азіяцкі рынак у Кітай. Усяго ж на прадпрыемстве сталі вырабляць да 30 найменняў розных сыроў і першымі ў краіне 3 віды масла з дабаўкамі натуральных спецый і прыпраў.



Пастаўскі раён

# Стаўка на моладзь

■ Кастусь Александровіч

**Адной з самых насычаных не толькі ў вобласці, але і ў Беларусі з'яўляецца сетка медустаноў райбальніцы ў Паставах, у якой акрамя стацыянара працуе яшчэ некалькі офісаў урачоў агульнай практыкі ў мікраранах горада, 3 аддзяленні хуткай дапамогі і 27 ФАПаў.**

У адрозненне ад іншых, укамплектавана яна і 92 урачамі, праўда, з іх чвэрць працуюць на заслужаным адпачынку. Узнікалі праблемы толькі з некамплектам гінеколагаў, але ў пачатку жніўня на працу сюды прыязджаюць адразу 3 маладыя спецыялісты гэтага профілю. Як і раней, сюды ахвотна едуць па размеркаванні маладыя медыкі, сёлета прыбудзе адразу 7 дыпламаваных урачоў і столькі ж фельдшараў. Па накіраванні райбальніцы ў розных медыцынскіх айчынных ВНУ навучаецца яшчэ 51 студэнт, ураджэнец раёна. Гэтым будучым і дзеючым спецыялістам-медыкам цяпер тут прыходзіцца працаваць у сучасных умовах, бо ўкараняюцца электронныя медыцынскія карты пацыентаў. Стацыянар і паліклініку збіраюцца пера аснашчаць сучасным абсталяваннем лазератэрапіі і дыягностыкі. Па лічбавых тэхналогіях пачалі рабіць у райцэнтры абследванні страўніка, крыві, кішэчніка, на ранняй ступені выяўляць анкалагічныя захворванні, рабіць біяпсію органаў. Сёлета запланавалі тут адкрыць і новае наркалагічнае аддзяленне на 10 ложкаў, а ў падвальных памяшканнях ЦРБ адкрылі для саміх медыкаў пакой лячэбнай фізкультуры,масажны кабінет са спецыяльным масажным крэслам.

Браслаўскі раён

# Калі душа спявае

■ Чэслаў Якубовіч

**Услед за Паставамі эстафету правядзення міжнародных музычных святаў пераняў суседні Браслаў, дзе таксама на працягу трох чэрвеньскіх дзён праходзіў 45-ты па ліку фестываль традыцыйнай культуры "Браслаўскія зарніцы".**

У азёрным краі сталі праводзіць тады павятовыя святы песень і музыкі яшчэ перад вайной, калі гэта мясцовасць уваходзіла ў склад тагачаснай Польшчы. У гэтым годзе народнае свята стала яшчэ больш маштабным, бо апроч прыбалтыйскіх суседзяў прыехалі сюды цікавыя харавыя і танцавальныя калектывы нават з Азербайджана, Турцыі, Украіны, Расіі і група венесуэльскага танца з беларускай сталіцы.. Падчас урачыстасцей у райцэнтры годна выступіў і свой мясцовы зводны хор з чатырохсот удзельнікаў, які праспяваў песню "Браслаўскі край" на цэнтральнай плошчы. Браслаў – увогуле горад невялікі, але аб гэтым азёрным раённым цэнтры ведаюць многія даўно дзякуючы польска-беларускаму вучонаму-краязнаўцу Аттону Гедэману. Некалі ён працаваў тут у мястэчку і напісаў цыкл з сямі грунтоўных кніг "Гісторыя Браслаўскага павета". У памяць аб аўтару падчас фестывалю адкрылі ў горадзе мемарыяльную дошку. Як і раней, адбыўся ў перапынку паміж канцэртамі інвестыцыйны эканамічны форум, прайшлі дзіцячы пленер, харавая ассамблея з удзелам 11 калектываў і нават арыгінальны масавы забег басанож вакол берагоў возера Дрывяты.

# Лічба нумара

**207** – столькі буйных інфаструктурных праектаў, па дадзеных СМІ, на агульную суму амаль 20 млрд. еўра было рэалізавана толькі ў суседняй Польшчы ў ходзе падрыхтоўкі да правядзення чэмпіянату Еўропы па футболе. Палякам дапамог паспяхова правесці гэты турнір, самы масавы ў гісторыі іх краіны, Еўрасаюз, які выдзеліў сродкі на 83 аб'екты, альбо пакрыў 40 % неабходных затрат. Кіраўніцтва Украіны таксама ганарыцца, што за 2 апошнія гады іх краіне ўдалося пабудаваць столькі, колькі не будавалася нават за два апошнія дзесяцігоддзі.

Самае галоўнае, што ў выніку гэтага спартыўнага свята палякі і украінцы зрабілі адчувальны крок наперад, сталі бліжэй да цывілізацыі і яшчэ больш сапраўднымі футбольнымі краінамі. Беларусі ў гэтым плане ганарыцца няма чым, яна ўсё болей адстае ад суседзяў, бо ў нас і блізка няма ніводнага нармальнага футбольнага стадыёна, не кажучы ўжо пра 8 сучасных прыгожых арэн, якія з'явіліся ў Варшаве, Гданьску, Познані, Вроцлаве, а таксама ў Кіеве, Данецку, Львове і Харкаве. Нам сціпла застаецца спадзявацца, што беларуская сталіца Мінск зменіцца яшчэ больш да лепшага пасля правядзення ў 2014 годзе чэмпіянату свету па хакеі.

Але гэты турнір будзе ў нас у пэўнай ступені другарадным, паколькі ў тым годзе важнейшым турнірам сезона хакейнага свету стануць Алімпійскія гульні ў Сочы, куды беларусы ўвогуле могуць і не трапіць. А вось за нашых бліжэйшых суседзяў можна толькі парадавацца, бо толькі ўкраінцы да Еўра-2012 атрымалі каля 4000 км новых дарог і 2200 км магістральных чыгуначных пуцей. Украіна відавочна змянілася ў лепшы бок, як гэта было і з беларускай сталіцай у 1980 годзе, калі і Мінск папрыгажэў падчас падрыхтоўкі ў 1980 годзе да правядзення футбольнага занальнага турніра Маскоўскай летняй Алімпіяды.

На жаль, пасля гэтага на працягу больш трыццаці гадоў у нас у плане паляпшэння інфаструктуры цэнтральнага стадыёна "Дынама" нічога не рабілася. Ён застаецца звычайнай барахолкай з састарэўшым крайне абсталяваннем і дапатопным табло. А вось у палякаў і украінцаў усё наадварот. Калі на папярэднім еўрапейскім першынстве, якое праходзіла таксама ў дзвюх краінах Аўстрыі і Швейцарыі, арганізатарам прыйшлося пабудаваць толькі адзін суперстадыён, а астатнія 7 толькі рэканструіраваць, нашы суседзі будавалі новыя арэны XXI стагоддзя.

У Варшаве прыгожы Нацыянальны стадыён паўстаў за 2 гады на месцы буйнейшага ў Еўропе рынку пад адкрытым небам на беразе Віслы і запатрабаваў паўмільярда еўра грошай. А вось у Данецку ўнікальную "Данбас-арэну" ўзвялі за 3 гады і інвестыцыі ў яе былі прыватнага капіталу на суму 400 млн. доляраў. Вы можаце сабе ўявіць, каб у нас былі такія капіталаўкладанні, бо ў нас усё робіць і вырашае дзяржава, даволі бедная і маленькая, але з пэўнымі амбіцыямі. Дарэчы, і іншыя арэны таксама будаваліся ў суседзяў не толькі за сродкі ўрадаў, але і інвестараўпрыватнікаў. Акрамя гэтага толькі ў Польшчы да Еўра-2012 паўстала больш 30 адрамантаваных па еўрастандартах вакзалаў, запусцілі і еўрапейскую аўтастраду А2 Варшава-граніца Германіі.

Палякі таксама ледзь не закончылі і аўтастраду А1 Гданьск-Лодзь, у верасні будуць здадзены апошнія яе 166 км трасы ад Торуні да Стрыкава. У нашых суседзяў таксама змяніліся ў лепшы бок і новыя аэрапорты, тэрміналы, залы прылётаў, пасадачныя паласы. Непазнавальным чынам украінцы і палякі змянілі і свае гатэлі, матэлі, кафэ і рэстараны, пансіянаты і кемпінгі. У адну толькі Польшчу, па разліках, да канца спаборніцтваў прыедзе каля 900 тысяч гасцей, балельшчыкаў з розных краін Еўропы і свету.

Самае галоўнае, што адшумяць футбольныя баталіі, а ўся гэта сучасная інфраструктура застанецца людзям і дарагія аб'екты не будуць далей пуставаць. Ужо вядома, што 8 суперсучасных польскіх і украінскіх стадыёнаў будуць і далей выкарыстоўвацца не толькі для правядзення футбольных матчаў, але і для розных канцэртаў, выстаў, бо тэхнічныя магчымасці гэта дазваляюць. Гіганцкія плошчы стадыёнаў плануюць аддаць і пад музейныя экспазіцыі, гандлёвыя цэнтры і аб'екты грамадскага харчавання. Безумоўна, нашы суседзі Польшча з Украінай сёлета дзякуючы футбольнаму чэмпіянату зрабілі сапраўдны цывілізацыйны рывок у сваім развіцці і наблізіліся да астатніх падобных гарадоў і сталіц. Цяпер слова за намі, бо і беларуская сталіца павінна змяніцца да лепшага і развіваць не адзін толькі прэзідэнцкі хакей, але і сапраўды ўсенародны і любімы ў свеце футбол…

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 28.06.12 | | | | Пятніца 29.06.12 | | | | Субота 30.06.12 | | | | Нядзеля 01.07.12 | | | | Пнд.02.07.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +11 | +14 | +18 | +16 | +11 | +16 | +19 | +17 | +11 | +19 | +23 | +21 | +17 | +20 | +26 | +26 | +20 | +20 | +23 |
| Ціск | 742 | 743 | 744 | 745 | 746 | 748 | 749 | 750 | 750 | 751 | 749 | 748 | 748 | 749 | 748 | 745 | 744 | 747 | 749 |
| Вільготнасць | 97 | 77 | 58 | 69 | 96 | 77 | 58 | 76 | 93 | 68 | 50 | 62 | 89 | 82 | 59 | 70 | 100 | 71 | 50 |
| Вецер м/сек | 4 | 4 | 3 | 2 | 2 | 1 | 1 | 2 | 1 | 4 | 6 | 5 | 3 | 1 | 3 | 6 | 2 | 6 | 6 |
| | З | С-З | С-З | С-З | С-З | З | С | С-В | В | Ю | Ю | Ю | Ю-З | З | Ю | Ю | Ю-З | З | З |

## Дзень за днём

**У пачатку лета, як паведаміў Белстат, рост цэн у Беларусі дасягнуў ужо 9,5 %, яшчэ болей падаражэлі хлеб, каўбасы, прамысловыя тавары, цыгарэты і найбольш (на 25,3 %) алкаголь. Нацбанк РБ вырашыў пакуль устрымацца ад дэнамінацыі, але паступова вывесці з абароту купюры вартасцю 10 і 20 рублёў. За 3 апошнія гады ваенная авіцыя Беларусі страціла ўжо 5 баявых самалётаў і 8 лётчыкаў, вось такая боегатоўнасць нашай арміі. Айчынныя ВНУ сёлета прымуць на першы курс усіх форм навучання 91,6 тысяч студэнтаў, з імі ўсімі будуць падпісаны дагаворы на навучанне. Без прадастаўлення рэцэптаў урачоў вырашылі беларусам прадаваць 3279 медпрэпаратаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Іран.** Намеснік камандуючага іранскіх ВМС контр-адмірал Аббас Заміні пацвердзіў, што краіна пачала распрацоўку ўласных атамных падводных лодак, гэта ўстрывожыла свет.

**Расія.** Прэзідэнт РФ У. Пуцін зноў адхіліў патрабаванні заходніх краін увесці эмбарга на пастаўкі ваеннай зброі Сірыі, паміж Расіяй і ЕС сталі нарастаць відавочныя рознагалоссі.

**ЗША.** Дзяржсакратар Хілары Клінтан абвінавацiла Расію ў пастаўках рэжыму Б. Асада ў Сірыі баявых верталётаў, гэта яшчэ больш павялічыць там пажар грамадзянскай вайны.

**Нарвегія.** Урад краіны вырашыў перабудаваць частку турмы пад псіхіятрычную клініку для тэрарыста-забойцы 77 чалавек А. Брэйвіка, калі суд прызнае яго душэўна хворым.

**Аўстрыя.** У розных клініках краіны пачаліся выпрабаванні першай у свеце біявакцыны фірмы AFFiRiS ад хваробы Паркінсона, ёе сталі прымаць 32 пацыенты-добраахвотнікі.

**Фінляндыя.** Кампанія Nokia распрацавала навінку: тры мадэлі танных сотавых тэлефонаў-смартфонаў з сенсарнымі экранамі, дзвюма SIM-картамі, 3-х дзюймовым дысплеем.

**Расія.** Новы міністр культуры РФ У. Медзінскі заявіў аб неабходнасці выносу цела Леніна з Маўзалея на галоўнай плошчы краіны і пахаванні яго ў новым прыстойным месцы.

**Польшча.** У тэатры Польскім у Варшаве прайшла прэм'ера спектакля "Час жанчын", зала плакала, калі акцёры паказвалі цяперашнюю сітуацыю ў Беларусі і лёсы канкрэтных асоб.

**Кот-д'Івуар.** Спецслужбы прадухілілі ваенны пераварот супраць новага кіраўніцтва краіны, путч рыхтавалі высланыя за граніцу афіцэры, прыхільнікі былога прэзідэнта Л. Гбагбо.

**Англія.** Адвакаты заснавальніка сайта WikiLeans Д. Асанжа аспрэчылі ў судзе яго экстрадыцыю ў Швецыю, адкуль яго могуць выслаць у ЗША за раскрыццё іх сакрэтаў.

**Францыя.** На міжнароднай ваеннай выставе ў Парыжы краіна паказала новую БМП і экіпіроўку "салдат будучага" з бронежылетамі, сродкамі навігацыі, двума дысплеямі.

**Расія.** Напярэдадні "марша мільёнаў" паліцыя правяла вобыскі на кватэрах тэлевядучай Ксеніі Сабчак, іншых лідараў апазіцыі, у офісе "Роспіла", руху па барацьбе з карупцыяй.

**Польшча.** Пасля аднаго з матчаў чэмпіянату Еўропы па футболе паліцыя затрымала ў Варшаве 184 гора-балельшчыкаў, рускіх і палякаў, якія сталі біцца, палілі файеры.

**Францыя.** У мусульманскіх колах выклікала гнеў забарона траім жанчынам-арабкам ва ўездзе ў Францыю за адмову зняць паранджу пасля прылёту ў парыжскім аэрапорце.

**Егіпет.** Землятрус магнітудай 6,1 бала тут і ля марскіх берагоў Турцыі выклікалі сапраўдную паніку сярод турыстаў, з іх 6 атрымалі траўмы, чакаюцца новыя штуршкі.

# У Беларусі прапануюць з малодшых класаў пачынаць прафілактыку наркаманіі



■ **Беларускія навіны**

**Спецыялісты мяркуюць, што супрацьнаркатычныя прафілактычныя мерапрыемствы неабходна праводзіць ужо з малодшымі школьнікамі.**

Але падыходзіць да гэтага пытання трэба асцярожна, з улікам сацыяльнай сталасці дзяцей, лічыць загадчык сектарам наркалагічнага маніторынгу РНПЦ псіхічнага здароўя Аляксей Кралько.

Падобныя праграмы актыўна ўкаранёныя, напрыклад, у Нямеччыне. «Там ужо ў малодшай школе ў гадавыя навучальныя планы ўведзены спецыяльныя мерапрыемствы па супрацьнаркатычнаму навучанню», - распавёў Кралько на прэс-канферэнцыі 20 чэрвеня.

Па яго словах, у асобных навучальных установах укараняюцца інтэрактыўныя формы навучання падлеткаў і моладзі жыццёвым навыкам па прафілактыцы наркаспажывання, піша БЕЛАПАН.

«Такія методыкі парой спрацоўваюць практычна на 100%. Сутнасць іх складаецца ў тым, каб навучыць падлетка, маладога чалавека правільна сябе весці ў той ці іншай сітуацыі, напрыклад, калі прапануюць наркотык. Тут трэба фармаваць і пачуццё гумару, і ўнутраную самадысцыпліну, і прыхільнасць да прынятых у нашым грамадстве маральных каштоўнасцей, у тым ліку павагу да закона. Гэтыя праграмы паказалі сваю высокую эфектыўнасць», - адзначыў Кралько.

Ён падкрэсліў, што ў краіне рэгулярна праводзяцца сацыялагічныя апытанні сярод моладзі, накіраваныя на выяўленне тэндэнцый у моладзевым асяроддзі, вывучэнне стаўлення да праблемы наркаманіі, вывучэнне пытанняў, якія тычацца інфармаванасці моладзі пра наркаманію, спецыфікі спажывання наркатычных сродкаў моладдзю.

«Практычна 95% апытаных выдатна ведаюць пра праблему наркаспажывання, наступствах немедыцынскага наркаспажывання. Але абмяркоўваюцца гэтыя пытанні ўсярэдзіне мэтавай групы недастаткова», – канстатаваў спецыяліст.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Смалявічы.** Для размяшчэння ля сталіцы Кітайска-Беларускага індустрыяльнага парку А. Лукашэнка сваім Указам выдзеліў 8048 гектараў зямлі і шмат падатковых ільгот кітайцам.

**Навагрудак.** Цаной свайго жыцця адвёў ад вёскі Навіны падаючы самалёт-штурмавік Су-25 і загінуў як герой ваенны лётчык 1-га класа падпалкоўнік Мікалай Грыднёў.

**Гомель.** Год ішоў судовы працэс супраць 29 кіраўнікоў мясакамбіната і 3 міліцыянераў, яны скралі мяса на 263 млн. рублёў, большасць з іх асудзілі ад 3 да 7,5 гадоў турмы.

**Жодзіна.** Да ўдзелу ў буйной сусветнай аўтвыставе ў Лас-Вегасе БелАЗ padрыхтаваў свой 360-тонны самазвал даўжынёй 15 м і дыяметрам калёс 4 метры, там яго купяць.

**Салігорск.** "Беларуськалій" прыступіў разам з расійскім партнёрам "Уралкаліем" да стварэння сумеснай кампаніі "Саюзкалій", яе офіс мяркуецца перанесці ў Швейцарыю.

**Заслаўе.** Пры праўядзенні вечарам земляных работ па пракладцы падземнага кабеля пашкодзілі газаправод высокага ціску, без газу засталіся 180 жылых дамоў горада.

**Ашмяны.** Адваката экскандыдата ў прэзідэнты А. Саннікава Марыну Кавалеўскую не выпусцілі ў Літву за быццам ўхіленне ад ваеннай службы, хоць яна не ваеннаабавязаная.

**Кіраўск.** Міліцыя затрымала п'янага рабаўніка, які на вуліцы райцэнтра ўдарыў 13-гадовую дзяўчынку, забраў яе мабільны тэлефон, яму пагражае да 6 гадоў зняволення.

**Бялынічы.** Пасля ўдару маланкі і адключэння сістэмы насычэння вады кіслародам у 5 адкрытых басейнах рыбгаса "Вабіч" загінула 6 тон малькоў каштоўных рыб – фарэлі.

**Мінск.** У сталіцы павялічылася да 294 чалавек колькасць юнакоў, якія ўхіліліся ад веснавога прызыву на ваенную службу, у запас па стане здароўя залічылі 2015 мінчан.

**Чачэрск.** Маладога 23-гадовага трактарыста з райцэнтра забіла токам у трансфарматарнай падстанцыі, у якой ён вырашыў схавацца падчас моцнага дажджу з навальніцай.

**Смалявічы.** Мінскі абласны суд прыгаварыў былога намесніка старшыні райвыканкама да 4,5 гадоў турмы за незаконныя махінацыі пры паляпшэнні жыллёвых умоў сыну.

**Гродна.** Неверагодны сілы вецер днём на праспекце Кляцкова некалькі разоў падняў высока ў паветра грузавы аўтамабіль "Мерседэс", па горадзе ляталі і бакі са смеццем.

**Салігорск.** Трагедыяй завяршыўся летні паход адной са школ горада, разрад маланкі вечарам забіў у палатцы 16-гадовага хлопчыка, яшчэ трое дзяцей атрымалі раненні.

**Мінск.** Другая ракетка свету Вікторыя Азаранка пацвердзіла, што сёлета для яе асноўная мэта - паспяхова выступіць на тэнісным турніры летніх Алімпійскіх гульняў у Лондане.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На II абласной канферэнцыі ГА "Белая Русь" член яе праўлення, міністр інфармацыі РБ А.Праляскоўскі пацвердзіў, што яна неўзабаве стане палітычнай партыяй.

**Гарадок.** Вецер ураганнай сілы парывамі да 14 метраў у секунду пакінуў без шыфернага даху будынак райваенкамата, матэрыяльны ўрон пасля буры склаў 10 мільёнаў рублёў.

**Полацк.** ААТ "Полацкае піва", якое ўваходзіла ў склад піўзавода "Крыніца", перайшло пад упраўленне ААТ "Белсолад", буйнейшага ў Беларусі вытворцы гэтай сыравіны.

**Шаркаўшчына.** На былым ваенным аэрадроме сельгаспрадпрыемства "Гарадзец" абсталявала летні лагер для вырошчвання маладняку жывёлы з кармленнем і паеннем.

**Віцебск.** Пасля моцнага дажджу ноччу ў цэнтры горада ля амфітэатра "Славянскага базара" зноў правалілася зямля з пліткай на значнай плошчы і нават бардзюрны камень.

**Глыбокае.** Каманда мясцовага лясгаса стала пераможцай абласнога чэмпіянату вальшчыкаў лесу "Лесаруб-2012". Спаборніцтвы праходзілі пад Оршай, яе лідар А. Смяхоўскі перамог і асабіста.

**Расоны.** Да жыхароў буйных вёсак раёна Галубова, Бірузова і Юхавічы, як высветліла праверка Дзяржкантролю, ні разу за квартал не прыязджала служба быту РКБА.

**Віцебск.** Другі пастаянна дзеючы трэйскі суд на тэрыторыі Віцебскай вобласці ўслед за Навапалацкам зарэгістравалі пры Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П. Машэрава.

**Верхнядзвінск.** На дарозе ў вёсцы Зельцы 34-гадовы жыхар Полацкага раёна на сваёй іншамарцы сутыкнуўся з грузавікам ЗІ. Вадзіцель загінуў разам з 58-гадовай пасажыркай з Расіі.

**Полацк.** Мясцовы Нацыянальны музей-запаведнік заняў 1-е месца на прэстыжнай міжнароднай выставе "Інтэрмузей-2012" у Маскве і атрымае 0,5 мільёна расійскіх рублёў прэміі.

**Лепель.** Райінспекцыя прыродных рэсурсаў папрасіла жыхароў раёна высветліць лёс мядзведзіцы, мамы пакінутага малыша, не выключана, што яе забілі нелюдзі-браканьеры.

**Віцебск.** Археолагі перадалі абласному краязнаўчаму музею знойдзеную падчас раскопак калекцыю старажытнай зброі і нагрудных значкоў у катлаване новага будынка КДБ.

**Сянно.** У аграсядзібах раёна прайшоў чарговы дзень адкрытых дзвярэй, турфірмы і госці з Расіі сабраліся на беразе возера Ордышава на аднайменнай двухпавярховай сядзібе.

**Талачын.** Лось, які ноччу нечакана выбег на аўтамагістраль М-1, загінуў сам і стаў прычынай гібелі 26-гадовага вадзіцеля з Брэсцкай вобласці, раненя двух пасажыраў.

**Віцебск.** У рамках падрыхтоўкі да "Славянскага базару" правялі каторы па ліку агульнагарадскі суботнік па добраўпарадкаванні найбольш парка Пераможцаў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Калі і ёсць у Глыбокім райскае месца, то гэта, безумоўна, – Барок!

■ Ул. Скрабатун

**Неверагодна, але ў межах Глыбокага захаваўся досыць старадаўні шляхецкі парк. Дакладней – старадаўнія паркавыя прысады (алеі). Пра існаванне гэтага паркавага аб'екта аўтар ведаў даўно, але напісаць матэрыял усё ніяк не даходзілі рукі. Гэта – парк у вёсцы Барок, які ўжо даўно паглынула Глыбокае. Барок стаўся цяпер вуліцай Сасновай.**

З аматарам вандровак Кастусём Бахірам аўтар і наведаўся ізноў у Барок. І, як сталася, у самы лепшы сезон года. Наўкола водар кветак, такі насычаны і моцны, што падаецца – тут нехта наўмысна выліў не адно вядро духоў ці адэкалону.

Паркавыя прысады ўяўляюць сабой у плане замкнуты прамакутнік. Унутры, як трэба меркаваць, некалі быў сад і агарод. Такія паркі называюць паркамі эканамічнага тыпу. Падобны парк захаваўся ў вёсцы Псуя.

Паркавыя прысады складаюцца з розных парод дрэў: ліпы, ясеня, дуба, ёсць пару асобнікаў лістоўніцы.

Хто заклаў гэты парк, аб існаванні якога не падазрае большасць жыхароў Глыбокага? На старой мапе 1860-х гадоў, якую маюць хіба што ўсе глыбоцкія скарбашукальнікі, гэтае паселішча адзначанае як засценак Баравец. І трэба меркаваць, што гэты парк быў закладзены менавіта тады і гэтаму парку недзе 150-200 гадоў. Ва ўсякім разе можна лічыць, што парк пасаджаны ў часы існавання засценка Баравец. Хто валодаў засценкам на тым часе, пакуль не вядома. Затое вядомы ўладальнік фальварка Барок (Borek) у 1920-30-я гг., ім быў нехта Міхаіл Данель (Michael Daniel). Аб гэтым паведамляе польскі бізнесовы даведнік за 1929 год. Яму належыла ў Барку 100 га зямлі, акрамя таго ў Гарадзішчы – 120 га. У Барку было два двары. Згодна даведніка за 1930 год, які выдаў Дзісенскі Павятовы Соймік у Глыбокім, у Барку пражывала 12 жыхароў. Праўдападобна гэта і ёсць той самы пан з Барка, які не пагадзіўся на размяшчэнне тут мізара – татарскіх могілак, бо баяўся ён ездзіць паўз могілкі, татары ж вымушаныя былі шукаць іншы пляц, атрымалі яго ў Амбросавічах.

Між тым, ёсць наўпроставыя факты, якія даказваюць, што людзі на тэрыторыі будучага паселішча Барок жылі ўжо ў эпоху мезаліта, г.зн. 10 000 гадоў таму. Гэта быў той час, калі апошні ледавік незваротна пакінуў тэрыторыю паўночнай Беларусі. Вялікі сябра археолагаў Алесь Мядзелец, глыбоцкі калекцыянер, паведаміў аўтару гэтых радкоў, што ён і малады археолаг Максім Чарняўскі, пару гадоў таму, абследвалі пагорак ля ракі Беразвіцы. Гэта той адрэзак ракі, які злучае азёры Вялікае і Падлазнае. Былі знойдзеныя вырабы з апрацаванага крэмнія, а таксама і чарапкі глінянага посуду часоў жалезнага веку. Тут выяўлена дзве стаянкі эпохі мезаліту. Людзі таго часу, звычайна, выбіралі месца для стаянкі паблізу ракі, якая ўпадала ў вялікае возера. І гэтае месца ў Барку – яскравы прыклад.

Важнейшыя дасягненні мезаліту — вынаходніцтва луку і стрэл і прыручэнне жывёл. З'явіліся першыя медыцынскія навыкі.

Рэльеф мясцовасці паказвае, што паркавыя прысады некалі былі ледзьве не на беразе возера Падлазна. Бо балаціна, якая падступае да парка, знаходзіцца на адным узроўні з возерам. Бачны контур былога возера ў выглядзе «прыступкі», з перападам вышыняў – балота-суша – каля аднаго метра. За пару стагоддзяў возера адступіла метраў на дзвесце.



Рамонкі па-над берагам Беразвіцы ўтвараюць суцэльны бялюткі дыван. На дальнім плане – паркавыя прысады ў Барку.

У цэлым Барок пакінуў вельмі прыемнае ўражанне. Вялікія векавыя дубы і ліпы – у два абдымы, шмат рознага кустоўя, якое квітнела буйнымі суквеццямі. Прыгажосць, хараство! А водар!

Не было бачна запусцення, усё дагледжана, чыста, акуратна.

Не хацелася б быць нейкім дарадчыкам жыхарам Барка, аднак выкажу сваё меркаванне, якое яны могуць прыняць проста да ведама.

Трэба захаваць усю гэтую прыгажосць для сваіх дзяцей і ўнукаў. Там, дзе прысады засталіся фрагментарна (дрэвы спілавалі з-за старасці), можна было б аднавіць гэта новымі пасадкамі дрэў. Нават пасадзіць іншыя пароды дрэў. У тым жа дэндрапарку расце некалькі відаў дубоў, а жалуды валяюцца пад нагамі. Чым не пасадачны матэрыял!

Улады, зразумела, не дапамогуць. У іх заўсёды гатовы адказ – «няма грошай і не будзе!» Дык можна арганізаваць суботнік сярод мясцовых жыхароў, а то ганяюць людзей на бессэнсоўную высечку лесапалос уздоўж дарог.

У цэнтры Барка (ці дакладней вул. Сасновай) стаіць досыць вялікі драўляны дом на падмурках з часанага каменя. Бярвенні складзены на «нямецкі вугал», што не тыпова для простай вясковай хаты. Будынак не захаваў свой аўтэнтычны выгляд, абleплены рознымі прыбудовамі. Аднак, праўдападобна гэта і ёсць сядзібны дом, у якім некалі жыла сям'я гаспадара фальварка.



Паркавыя прысады з ліпы, дуба і ясеня ў Барку ўтвараюць замкнуты прамакутнік.





**Каб паказаць сапраўдныя памеры дрэў, трэба паставіць нейкі «маркер». «Маркерам» стаў мой спадарожнік Кастусь Бахір. Вось такія вялізныя ліпы ў два абдымы растуць у паркавых прысадах у Барку (злева). Калі не пілаваць заўчасна на дровы чорную вольху, то вырастае вялікае і прыгожае дрэва (справа).**

# У лесе ўжо з'явіліся лісічкі

**Грыбны сезон распачаўся! Галоўны індыкатар з'яўлення грыбоў, як заўсёды, – продаж іх на рынках Глыбокага. Яны прадаюцца!**

■ Ул. Скрабатун



Лісічка – адзін з самых карысных грыбоў нашай Беларусі, аднак, у кулінарыі ён адносіцца да трэцяй катэгорыі, бо засвойваецца не так добра, як, скажам, баравік. Каб атрымаць максімум карысці ад лісічкі, рэкамендуецца яе як мага мацней здрабняць. Лісічка ўтрымоўвае вялікую колькасць вітаміна А, В, РР, мноства амінакіслот і мікраэлементаў (медзі і цынку), што спрыяе паляпшэнню зроку, вылечванню ад «курынай слепаты», а таксама з'яўляецца прафілактыкай шматлікіх вочных захворванняў. Акрамя ўсяго, рэчывы, якія змяшчаюцца ў лісічках, паляпшаюць стан слізістых абалонак, асабліва вока, увільгатняюць іх, і робяць іх устойлівымі да інфекцыйных захворванняў. Рэчывы, якія змяшчаюцца ў лісічках, выкарыстоўваюць у фунгатэрапіі. У Еўропе выцяжкамі з лісічак лечаць захворванні печані і гепатыт С. Таксама, лісічкі ўскосна лечаць атлусценне (якое з'яўляецца ад недастатковай функцыянальнасці работы печані), вядома ж, пры ўмове правільнай дыетычнай іх падрыхтоўкі.

Лісічкі застаюцца некранутымі чарвякамі і ўсялякімі казуркамі дзякуючы таму, што ў целе грыба ўтрымоўваецца адмысловае рэчыва – хіцінманоза, якое руйнуе капсулы яйкаў розных чарвякоў, у тым ліку і істужачных, не даючы ім такім чынам развівацца. Са старажытных часоў настоем лісічак лечаць фурункулы, нарывы і ангіну. Акрамя таго, лісічкі затрымоўваюць рост сухотнай палачкі. Некаторыя фармацэўтычныя фірмы закупляюць лісічкі, вылучаюць з іх хіцінманозу і выкарыстоўваюць яе ў чыстым выглядзе ў складзе медыцынскіх прэпаратаў.

Лісічкі можна прыгатаваць па-рознаму: пасмажыць, адварыць, засушыць, замарынаваць ці засаліць. Аднак, смачней за ўсё лісічкі смажаныя, тым больш, што іх досыць проста рыхтаваць. Рэцэптаў смажаных лісічак не пералічыць, але ўсе яны зводзяцца да таго, каб дробна ці сярэдне парэзаць грыбы, выпарыць з іх ваду на патэльні, дадаць алею і змяшаць з чым-небудзь смачным, напрыклад, з бульбачкай, яйкамі, курыцай, спагецці, дадаць у піцу ці пірог.

# Памёр Якуб Конан — апошні беларус-удзельнік бітвы пад Монтэ-Касіна

**Яму было 99 гадоў. Пахавалі ў Беразінскім, што пад Маладзечнам.**


Якуб Конан (злева) у Польскім войску.

■ **Зоя Хруцкая,**
*Рэгіянальная газета.*

Ён пахаваны 21 чэрвеня на могілках каля мястэчка Беразінскае ў Маладзечанскім раёне, дзе ён жыў апошнія гады. Яму было 99 гадоў.

Вайскоўца пахавалі 21 чэрвеня у ганаровым месцы — каля самай царквы. На жалобе прысутнічаў ваенны аташэ пасольства Польшчы ў Беларусі. Ніхто з прысутных на пахаванні не захацеў паехаць на могілкі — усе ішлі пешшу.

— Было прыемна, што вайсковы аташэ прывёз вельмі прыгожы вянок з уплеценым бел-чырвоным польскім сцягам, — распавядае гісторык Барыс Бароўскі. — Ён прысутнічаў на богаслужэнні ў Гарадзілаўскай царкве і на жалобным сталe, па ўсім былі бачныя вельмі паважлівыя адносіны да нябожчыка. У сваёй прамове вайсковы аташэ сказаў, што Польшча і далей прапануўае грашова падтрымліваць сям'ю Якуба Конана. А калі апускалі труну, то аддаў чэсць жаўнеру польскага войска.

Якуб Конан памёр каля 11 раніцы 20 чэрвеня. Паводле слоў Барыса Бароўскага, апошнія гады ў вайскоўца было няважнае здароўе, але аб ім клапаціліся сын і нявестка, ды і ўсе жыхары мястэчка вельмі шанавалі салдата.

* * *

Якуб Конан — нарадзіўся 28 сакавіка 1913 года ў сялянскай сям'і ў вёсцы Міхалова (цяпер — Маладзечанскі раён).

У 1936–37 адбываў службу ў Войску Польскім. У 1939-м удзельнічаў у абароне Львова. Ад 1939 — у савецкім палоне, з якога вызвалены ў 1941 як польскі грамадзянін. Пасля гэтага залічаны ў склад палка лёгкай артылерыі 5-й пяхотнай дывізіі арміі пад камандаваннем генерала Андэрса. Узнагароджаны Памятным крыжам Монтэ Касіна [мясцовасць у Італіі, дзе ў маі 1944 г. адбылася зацятая бітва: жаўнеры Армія Андэрса, дзе было багата беларусаў, штурмавалі нямецкі бастыён — ВГ], медалямі. Ён належаў да «групы супраціву» — польскіх жаўнераў, якія адмаўляліся дэмабілізоўвацца і вяртацца на радзіму, бо лічылі, што павінны змагацца далей. Дэмабілізаваўся толькі ў 1948 годзе. На радзіме ў 1951 годзе арыштаваны і дэпартаваны ў Іркуцкую вобласць разам з жонкай і пяцімесячным сынам.

У 1958 яго вызвалілі, але выдалі ваенны білет, у якім адзначылі, што ён ў Вялікай Айчыннай вайне не ўдзельнічаў.

***

Пра Монтэ-Касіна Якуб Конан згадваў:

«Забыць такое немагчыма. Я быў у палку лёгкай артылерыі. Перад намі выступіў англійскі генерал і сказаў: „Салдаты, вы не ведаеце, што чакае вас у гэтую ноч… У многіх дамах не дачакаюцца сыноў, братоў… З Богам!“.

Гэта была ноч на 10 мая 1944 года, калі ў ваколіцах горада цвілі чырвоныя макі. Гітлераўцы ўмацаваліся ў гарах, іх пазіцыя была больш зручная. Мы ж знаходзіліся на раўніне. Артпадрыхтоўку праводзілі толькі ноччу, пушкі закопвалі ў зямлю. У гэтую ноч я выпусціў з пушкі каля 800 снарадаў. Ствалы награваліся так, што на іх лілі халодную ваду, каб астудзіць. Горад быў поўнасцю спалены. Пасля таго, як нашыя танкі абышлі ворага з тылу і пайшлі на варожыя пазіцыі, наступіў карэнны пералом у баі. Нам удалося захапіць у палон камандуючага фронтам. Хоць і з вялізнымі стратамі і ахвярамі, перамогу мы ўсё ж вырвалі. Там мы і сустрэлі перамогу. Званілі ўсе касцёлы! Чуліся крыкі радасці, гучалі мірныя стрэлы».


Польскія жаўнеры пры штурме горнага кляштара Монтэ-Касіна.

# Таямніца аднаго крыжа

■ **Лена Клімза**
**Фота Андрэя Мацура**

**Святы Андрэй Баболя – святар, мучанік, палымяны прапаведнік, самаадданы місіянер, «душахват», які евангелізаваў на Палессі і скончыў жыццё ў страшэнных муках , так і не адрокся ад сваёй ідэі еднасці хрысціян, забіты казакамі ў Янаве Палескім (цяпер Іванава Брэсцкай вобласці). Яго постаць, гісторыя з нядаўняга часу атрымала асаблівае значэнне для нашай сям'і.**

Цяпер ужо мала хто памятае і ведае, што яшчэ да вайны па дарозе Шаркоўшчына-Браслаў, паміж вёскамі Глісцёнкі і Сасноўцы, у мясцовасці, званай Тарзянова, стаяла капліца ў гонар святога Андрэя Баболі. Побач знаходзілася школа, а зусім блізенька да капліцы стаяла хата, якую арандавалі ў тамтэйшага пана Андрэя Ананіча, бабуля і дзядуля майго мужа – Ядзвіга і Антон Хвецковічы. Яны і апекаваліся гэтай капліцкай. Сям'я была вялікая (бабуля нарадзіла 12 дзяцей, праўда не ўсе выжылі). Яны былі вельмі пабожныя, добрыя, працавітыя людзі. У іх жыцці Бог заўсёды быў на першым месцы, а Святы Андрэй Баболя быў вельмі шанаваным нябесным заступнікам.

Каплічка на выгляд нагадвала звычайны касцёл – мела вежы, акрамя галоўнага, былі яшчэ і бакавыя алтары, і хоць не мела арганаў, хоры ўсё ж былі. Святыня была пабудана на сродкі тутэйшага пана Андрэя Ананіча, які быў сялянскага паходжання, але па легендзе, знайшоўшы скарб, разбагацеў і ў гонар свайго нябеснага заступніка – святога Андрэя Баболі (праўда, спачатку благаслаўлёнага, бо святым стаў толькі ў 1938 годзе), пабудаваў капліцку. Адзін раз на год 16 мая там спраўлялася набажэнства ў гонар Андрэя Баболі. Прыходзілі з Шаркоўшчыны і з наваколля вернікі са святочнай працэсіяй. Колькі іх было, можам толькі здагадвацца, бо па словах Ірэны Антонаўны Хвецковіч (гэта – дачка сям'і Хвецковіч), каб напаіць прагнучых з дарогі пілігрымаў, трэба было падрыхтаваць 7 вёдзер квасу.

Здарылася так, што ў вайну ад бомбы згарэла хата Хвецковічаў, пасля была спалена і школа.Бабуля і дзядуля вымушаныя былі шукаць іншае жыллё – яны перанесліся ў Бяседнае. А вось капліцка, некранутая ваенным ліхалеццем, так і прагнула стаяць у чыстым полі. Прыкладна ў канцы 50 гадоў (ніхто дакладна не ведае) вернікі з Ёдаў вырашылі разабраць капліцу і перавезці ў сваю вёску і там наноў пабудаваць. Але так і не атрымалі дазволу ад тагачаснай бязбожнай улады, маёмасць капліцы вернікі разабралі па хатах і схавалі, хто што мог.

Аб гэтай гісторыі наша сям'я даведалася амаль два гады таму, якраз едучы на фэст Андрэя Баболі ў Лучай. Выпадкова запрасілі паехаць з намі добрую знаёмую – Рэгіну Іпалітаўну Латышонак (Шатыбелка), жыхарку Шаркаўшчыны, ураджэнку тых мясцінаў. Яна і распавяла пра каплічку Андрэя Баболі ў Тарзянове. На жаль, дагэтуль мы нічога не ведалі, а нават і не чулі. Пасля пачалі цікавіцца ў старэйшага пакалення, у родных і знаёмых. І аж з Італіі дайшлі весткі.Там жыве ўнучка і праўнучка сям'і Хвецковіч. Менавіта Ванда Станіславаўна ўзгадала, што калісьці ў яе дзяцінстве (а зараз ёй ужо 60 год) над яе ложкам вісеў крыж, па словах яе таты, ён быў з каплічкі Андрэя Баболі.Пасля крыж знялі і схавалі на паддаху. Так і праляжаў ён амаль 40 год. Нават гаспадар дома не ведаў пра такі каштоўны скарб.

Цікава, што крыж быў у цудоўным стане, адразу было відаць, што быў ён зроблены сапраўдным майстрам – распяцце з цэльнага дрэва. Крыж быў памерам паўтара метра даўжынёй.Амаль не крануты часам, толькі сорагадовы пыл быў на ім.

Але, дзе знайсці пачэснае месца для такой святыні? Адзінагласна вырашылі перадаць Лучайскаму касцёлу, у якім знаходзіцца алтар святога Андрэя Баболі, штогод 16 мая ладзіцца фэст у гонар пакутніка.Тым больш ужо на працягу амаль пяці год там служыць Богу і людзям наш славуты зямляк – ксёндз Мікалай Ліпскі, сын зямлі Шаркоўшчынскай, якім мы вельмі ганарымся.

У Вялікую пятніцу сёлета адбылося ўшанаванне Крыжа – нашага крыжа!!!!

Наша сям'я ўдзельнічала ў цырымоніі Вялікай пятніцы. Шкада, што не ўсе нашчадкі Хвецковічаў засталіся вернымі Богу і касцёлу.Вельмі сімвалічна, што абапал Крыжа стаялі нашы сыны-міністранты Вячаслаў і Станіслаў. Падыходзілі людзі, пакланяліся крыжу, як і калісьці нашы продкі. Значыць, вера жыве!

Зараз крыж з каплічкі святога Андрэя Баболі размешчаны пры алтары пакутніка. Як успамін аб веры нашых продкаў, як яны берaглі, баранілі веру.

У гісторыі Касцёла Божы Провід не аднойчы нечакана адкрываў і паказваў святога Андрэя Баболю ў самыя дзіўныя моманты. Магчыма, і сёння настаў час, каб ён сваім прыкладам умацоўваў нас у выкананні заданняў, якія Пан Бог прызначыў для кожнага з нас.

**P.S.** Звяртаюся з вялікай просьбай да ўсіх, а асабліва жыхароў Ёдаў і наваколля: калі хто штосьці ведае пра гісторыю капліцы ў Тарзянове – падзяліцеся, калі ласка, раскажыце нам.



# Самі браканьеры патрапілі ў сеткі, расстаўленыя інспекцыяй

**А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

Багатая наша рэспубліка вадаёмамі, асабліва яе паўночная частка, якая атрымала такую прыгожую назву – Беларускае Паазер'е. Калі каму-небудзь пашчасціла зірнуць на гэты край з вышыні птушынага палёту, то ўбачаная карціна запомніцца на ўсё жыццё. Бо кожнае возера па сваёй прыгажосці непаўторна. Але, з такім варварскім стаўленнем да іх, мы хутка будзем глядзець проста на пустую, мёртвую ваду. Браканьеры кожны дзень вылоўліваюць сотні кілаграм рыбы, але, як кажуць у народзе, не заўсёды кату масленіца. Шматлікія браканьеры і самі трапляюць у сеткі расстаўленыя супрацоўнікамі інспекцыі.

Так, 22 чэрвеня 2012 года супрацоўнікамі інспекцыі на возеры Бярозаўскае Глыбоцкага раёна затрыманы два жыхары г. Глыбокае, якія каля 10 гадзін раніцы ажыццяўлялі здабычу рыбы пры дапамозе сетак. Як не імкнуліся мужчыны рабіць выгляд, што яны ловяць рыбу вудамі, але правесці дасведчаных інспектараў ім не атрымалася, здабыча склала 20 кг., у тым ліку і рэдкі для нашых вадаёмаў від – сом, адзнаку дзеянням парушальнікаў дасць раённы суд.

У гэты ж дзень, але ўжо амаль у 22 гадзіны ,супрацоўнікамі міжрайінспекцыі на возеры Сэрвач Докшыцкага раёна затрыманы 3 жыхары Докшыцкага раёна, якія здзяйснялі здабычу рыбы пры дапамозе бродніка, зlавіць рыбы яны яшчэ не паспелі, самі ж патрапілі ў сеткі інспекцыі, але штраф за незаконную здабычу рыбы будзе прыстойны. Затрыманыя вельмі былі здзіўленыя з'яўленнем супрацоўнікаў інспекцыі, бо ў такую познюю гадзіну яны лічылі, што няма нікога і можна рабіць усё, што пажадаеш.

24 чэрвеня 2012 года каля 17 гадзін супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі праверылі рыбалоўчую брыгаду арандатара КФХ «Свідава», які арандуе возера Свядава, і вынік праверкі вельмі гнятлівы. Тоневы журнал уліку вылаўленай рыбы і ўсталяваных сетак адсутнічае, прамысловыя квіткіўрыбакоўадсутнічаюць або не сапраўдныя, да таго ж, і да маркіраваных сетак прывязаны браканьерскія немаркіраваныя сеткі. Усе парушальнікі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, канфіскавана 30 кг. вылаўленай рыбы, за якую арандатару рыбалоўных угоддзяў прыйдзецца заплаціць буйную суму.

У гэты ж дзень на возеры Глыбочка, паблізу в. Баравое, затрыманы жыхар Глыбоцкага раёна з сеткамі, пакаранне вынесе раённы суд.

Толькі ў перыяд з 11 па 25 чэрвеня 2012 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі затрымана 19 «браканьераў», канфіскавана амаль 2 км браканьерскіх сетак і амаль 100 кг. незаконна здабытай рыбы.

Хацелася б выказаць падзяку грамадзянам, якія аказваюць дапамогу супрацоўнікам інспекцыі ў барацьбе з браканьерамі.

Прырода Рэспублікі Беларусь вельмі разнастайная. Шмат лясоў, азёр, рэк, балот, але як мы ставімся да яе захавання? Настае час збору ягад, і пачынаецца масавы збор ягад камбайнамі. Шматлікія грамадзяне, парушаючы закон, ідуць у лес, каб зарабіць грошай, але ўсё добрае калісьці заканчваецца, пры затрыманні парушальнікаў супрацоўнікамі інспекцыі ці лясной аховы іх чакае велізарны штраф.

Таму, Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету нагадвае ўсім грамадзянам пра тое, што збор ягад усіх відаў з дапамогай «камбайна» ці грабянца забаронены. Заканадаўствам усталявана адміністрацыйная адказнасць за збор ягад з дапамогай грабянцоў, ч.2 арт. 15.26 Кодэкса Рэспублікі Беларусь «Пра адміністрацыйныя правапарушэнні» прадугледжвае адказнасць у выглядзе штрафу ў памеры да **20 базавых велічынь**, з пакрыццём прычыненай прыродзе шкоды, за 1 кг. ягад спаганяецца ўрон у памеры **2,2** базавых велічыні **(220 000 руб.)** Калі ж урон, прычынены прыродзе, складзе больш **40** базавых велічынь, то ў адносінах парушальніка будзе ўзбуджана крымінальная справа.

Пасля некалькіх разоў збору ягад пры дапамозе грабянца, ягаднікі перастаюць плоданасіць, у шматлікіх месцах можна назіраць прыгожыя кусты чарніцы, але ягад на іх няма, гэта вынік неадназоразовага ўжывання «камбайнаў».

Глыбоцкая міжрайінспекцыя будзе ўжываць да парушальнікаў прыродаахоўнагазаканадаўствасамыя строгія меры адказнасці.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць на тэлефон "гарачай лініі" Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету: 8-02156-2-86-70 ці мабільныя: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# Адзіны дзень бяспекі дарожнага руху

**І.У. Федаровіч,**
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*

29 чэрвеня па ўсёй рэспубліцы Дзяржаўтаінспекцыяй будзе праведзены Адзіны Дзень бяспекі дарожнага руху па тэме «Выбірай бяспечную хуткасць!»

На сённяшні дзень бягучага года на дарогах раёна здзейснена 6 дарожна-транспартных здарэнняў, у выніку якіх 1 чалавек загінуў і 7 атрымалі цялесныя пашкоджанні і былі шпіталяваныя ва ўстановы аховы здароўя.

Паводле праведзенага аналізу, толькі ў траўнічэрвені здзейснена 4 дарожна-транспартныя здарэнні з цяжкімі наступствамі. Менавіта ў чэрвені адбылося 3 дарожныя аўтааварыі, у выніку якіх пацярпелі 3 чалавекі. Становішча ў раёне з бяспекай дарожнага руху застаецца складанай, не гледзячы на прыкладаемыя высілкі Дзяржаўтаінспекцыі па яе аздараўленні.

Шматлікія вадзіцелі паддаюцца спакусе пракаціцца з ветрыкам, забываючы пра небяспеку, пра тое, што дзеці знаходзяцца на вакацыях і гуляюць паблізу дарог асабліва ў вёсках, прыехаўшы да бабуль на летні адпачынак. За перавышэнне хуткасці прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці вадзіцелі. Працаўнікамі АДАІ падчас правядзення Адзінага дня бяспекі дарожнага руху асноўная ўвага будзе нададзена выяўленню і спыненню парушэнняў хуткасных рэжымаў. Да вадзіцеляў, якія парушаюць усталяваныя хуткасныя абмежаванні, будзе больш жорсткая праваўжывальная практыка, асабліва за паўторнае парушэнне хуткасных рэжымаў звыш 20 км/г, здзейсненае на працягу года з моманту накладання адміністрацыйнага спагнання аж да пазбаўлення права кіравання тэрмінам да 1 года. Перавышэнне ўсталяванай хуткасці руху звыш 20 км/г цягне за сабой накладанне штрафу ад 1 да 3-х базавых велічынь, а звыш 30 км/г – ад 3-х да 10-ці базавых велічынь.

Маршруты нясення службы нарадаў дарожна-патрульнай службы АДАІ будуць набліжаныя да найболей аварыйных участкаў вуліц горада і раёна. З мэтай прафілактыкі правапарушэнняў у сферы дарожнага руху, папярэджанні дарожна-транспартных здарэнняў у аўтагаспадарках будуць праведзены гутаркі з вадзіцелямі і інжынернатэхнічнымі работнікамі па пытаннях бяспекі дарожнага руху.

Карыстаючыся выпадкам, хачу звярнуць увагу вадзіцеляў на выкананне правіл прыпынку і стаянкі ў горадзе. Вы бачыце, з якімі цяжкасцямі дзякуючы Вашай недысцыплінаванасці (парушэнне дарожных знакаў, якія забараняюць прыпынак і стаянку, часцяком, пакідаючы транспарт на стаянку на пешаходных пераходах і бліжэй 15 метраў ад іх), сёння сутыкаюцца дарожныя, камунальныя і будаўнічыя арганізацыі, якія заняты на добраўпарадкаванні горада (тэхніка не можа пад'ехаць да абслугоўванага аб'екта, своечасова разгрузіцца, і г.д.). Да парушальнікаў правіл прыпынку-стаянкі будуць ужываць штрафныя санкцыі ў памеры 1 базавай велічыні. Нагадваем, што парушэнні правіл прыпынку і стаянкі, здзейсненыя паўторна на працягу года, цягнуць за сабой ужыванне адміністрацыйнага спагнання ў выглядзе штрафу 2 базавыя велічыні.

Паважаныя вадзіцелі, заклікаю Вас да выканання Правіл дарожнага руху, павышэння ўважлівасці і выканання хуткасці руху.

**Памятайце – нас усіх чакаюць дома!**




*Аляксандра Яўгеньевіча Самсонава*

**Віншуем з нагоды юбілею Дня народзін**



Тебе двадцать пять, это праздник особый,
И в этот день мы хотим пожелать:
Огромного счастья, яркого солнца,
Только удачу в дальнейшем встречать.
Ты уже знаешь жизни законы,
Поражений обиды и радость побед!
И от судьбы, как бы жизнь не мотала,
Желаем не слышать тебе слова "нет"!
*Бацькі, брат, нявестка, пляменніцы.*

*Таццяну Станіславаўну Самсонаву*

**Віншуем з нагоды юбілею Дня народзін**



Четверть века – это веха
Для любого человека.
Поздравляем с важным днем
И наказ тебе даем:
Быть счастливой, а не слыть
И стараться с честью жить.
Уж любить, так всей душой!
На работе быть звездой,
Если плакать – то от счастья.
Под защитой быть в ненастье.
Быть всегда в кругу друзей,
А не только в юбилей.
Поздравляем с днем рожденья!
Будь в хорошем настроеньи!
*Муж і дочкі, а таксама Яўген, Галіна і Саша.*

## МНС інфармуе
**на 26.06.2012 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 632;
Гібель людзей – 83, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 3414,7 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 27;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 198 050 000 руб.

# На 88-я ўгодкі Васіля Быкава

**Яўген Самсонаў**

Штогод 19 чэрвеня на радзіме вялікага пісьменніка Васіля Быкава, у вёсцы Бычкі, Ушацкага раёна – людна.

І сёлета з розных куткоў Беларусі сюды накіравалі свае шляхі прыхільнікі вольнага слова, каб ушанаваць памяць слыннага мастака слова, сапраўднага сына сваёй Айчыны. Каб на поўныя грудзі ўздыхнуць ап'яняючы водар вольнага паветра Ушацкай зямлі, скарбніцы талентаў і самародкаў, сярод якіх – Пятрусь Броўка, Еўдакія Лось, Рыгор Барадулін,Сяргей Законнікаў і шмат, шмат іншых.

Нездарма вось ужо пяты год тут уручаюць прэмію «За свабоду думкі» (на падабенства прэміі Еўрапейскага парламента імя А. Сахарава), якая была заснаваная рухам «За Свабоду» пад кіраўніцтвам Аляксандра Мілінкевіча і ўручаецца выбітным беларускім культурным і грамадскім дзеячам. У папярэднія гады прэмію атрымлівалі Уладзімір Арлоў, Рыгор Барадулін, Павел Севярынец, Ада Райчонак, Алесь Пушкін, Уладзімір Някляеў.

Госці з Віцебска запазніліся – зламаўся аўтобус. Тым часам прысутныя пісалі нацыянальную дыктоўку, якую зачытала Зінаіда Бандарэнка.

У ролі вядучага імпрэзы выступаў Алесь Лагвінец, а з прамовамі выступілі: В.Грыб, А. Мілінкевіч, У.Арлоў, А. Пушкін, І. Навумчык, У. Папковіч і іншыя аратары.

Сёлета прэмію "За свабоду думкі" атрымалі два чалавекі: заслужаны настаўнік Беларусі, заслужаны дзеяч культуры, 84-гадовы Алесь Белакоз з вёскі Гудзевічы Мастоўскага раёна і музыка Лявон Вольскі. Апошні на ўрачыстасці не прысутнічаў, бо знаходзіўся ў Чарнагорыі.

Музыкі з Лепеля і бард Андрэй Пляскаў падлілі "масла" ў вясёлы настрой прысутных.

Закончылася імпрэза сімвалічным абедам у падворку дома, што побач з буслянкай, у якім шмат хто з прысутных у свой час сустракаўся і трапезнічаў з Васілём Быкавым. Знайшліся ахвотныя і патанчыць пад добрую музыку.



Сястра В. Быкава – Валянціна (злева), правей Іосіф Навумчык, старшыня абласной арганізацыі ТБМ.

